# НА IV З'ЕЗДЗЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## Не ўпадаць у роспач і не складаць рукі ў бяздзейнасці

***Слова на адкрыцці IV з'езда Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны***

Шаноўныя дэлегаты і госці з'езда!

На свой чарговы рэспубліканскі форум мы сабраліся для таго, каб прааналізаваць дзейнасць ТБМ за перыяд пасля III з'езда і вызначыць галоўныя праблемы і задачы, якія стаяць перад Таварыствам сёння і будуць актуальнымі, вострападзённымі заўтра, — у той грамадска-палітычнай сітуацыі, што ўжо склалася і, па ўсім відаць, будзе мець сваё развіццё далей. Сітуацыі, падкрэслім гэта адразу, неспрыяльнай для лёсу беларускай мовы і культуры, — сітуацыі, у якой гатова запанаваць атмасфера беларусафобіі, непрыязні і адкрытай варожасці да беларускай мовы, да нацыянальнага адраджэння Беларусі, да статуса суверэннасці і незалежнасці нашай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь.

Два з палавінай гады назад, напярэдадні III з'езда ТБМ, палітычная сітуацыя ў краіне была іншая. Здавалася, усё было ў асноўным падпарадкавана адной вялікай мэце — будаўніцтву сваёй свабоднай незалежнай дзяржавы, усё было нацэлена на адну задачу — зрабіць Беларусь у поўным сэнсе слова Беларуссю, вярнуць ёй сваё ўласнае нацыянальнае аблічча, страчанае ёю за дзесяцігоддзі бальшавіцкага таталітарызму. Здавалася, у нашым грамадстве, пры ўсіх непазбежных агаворках наконт цяжкасцяў пераходнага перыяду, троху-патроху набірае сілу і перамагае патрыятычнае волевыяўленне народа, расце і дужэе тое здаровае, сумленнае, разумнае, што ў яго душы было яшчэ не забіта, яшчэ жыло і цеплілася. Так здавалася — хаця дастатковых падстаў не было. Вядома, сёе-тое было ўжо зроблена на шляху станаўлення беларускай дзяржавы, ажыццяўлення праграмы нацыянальнага адраджэння Беларусі. Поўныя зрухі ў гэтым накірунку былі, у прыватнасці — у справе выканання Закона аб мовах, паводле якога беларуская мова набыла ў Беларусі статус дзяржаўнай. Натуральна, беларусы-патрыёты радаваліся гэтым першым заваёвам. Радаваліся — і, на вялікі жаль, недаацанілі магчымасці сіл антыпатрыятычных, якія зусім не думалі змірыцца з такім развіццём падзей, з курсам на беларусізацыю Беларусі, на ўмацаванне яе становішча як незалежнай дзяржавы. Гэта зусім не адпавядала іх інтарэсам. Праз нейкі час пасля кашмарнай для іх другой паловы 1991 года, яны апомніліся, спахапіліся, зразумелі, што яшчэ не ўсё страчана, дакладней — амаль нічога не страчана, пачалі гуртавацца і актыўна процідзейнічаць нацыянальна-адраджэнскаму беларускаму руху. Гэтая іх актыўнасць стала асабліва адчувальнай і відочнай пасля таго, як беларускі парламент большасцю сваёй фактычна пайшоў у іх на павадку. Адчуўшы смак першага поспеху, ворагі беларушчыны нахабна паднялі галаву і з вялікай апантанасцю павялі сваю злачынную антыбеларускую і антыдзяржаўную работу. З набліжэннем прыняцця новай Канстытуцыі яны настойліва загаварылі аб неабходнасці надаць рускай мове ў Беларусі статус дзяржаўнай. Правесці гэтую авантуру праз Вярхоўны Савет ім не ўдалося — статус дзяржаўнай Канстытуцыя замацавала толькі за адной мовай — за мовай асноўнага карэннага насельніцтва Беларусі, што было ў найвышэйшай меры справядліва. Як вы помніце, рускай мове была адведзена роля мовы міжнацыянальных зносін — роля настолькі значная, што куды ўжо больш і патрабаваць чагосьці! Сумленныя беларусы, патрыёты роднага слова спадзяваліся, што такі запіс у Асноўным Законе дзяржавы супакоіць усіх тых, хто надта ж баяўся за становішча і лёс рускай мовы ў Беларусі, за тое, хаця ж бы мы па неразумнасці сваёй не перасталі вывучаць яе і не адарваліся ад вялікай рускай літаратуры, культуры, навукі.

Было б вялікай памылкай думаць, што ўсе тыя грамадзяне, якія сцяной сталі і стаяць за дзяржаўнае двухмоўе, не разумеюць, што гэта значыць для лёсу беларускай мовы ў Беларусі. Гэта не зусім так. Вядома, ёсць сярод іх такія, што па цёмнасці сваёй нічога страшнага ў гэтым для нашай мовы і наогул для лёсу нашае нацыі не бачаць. Але не яны вядуць «першую скрыпку», не яны галоўныя ініцыятары і ідэолагі ўсёй гэтай непрыгляднай чыннасці. Яны ўсяго на ўсяго ідуць за тымі, хто выдатна разумее і ведае: калі не падрэзаць пад корань беларускую мову — то не ўдасца спыніць працэс нацыянальнага беларускага адраджэння і падарваць справу будаўніцтва незалежнай беларускай дзяржавы. Іначай кажучы, не ўдасца паставіць на суверэннай Беларусі крыж. Не ўдасца зрабіць нашу краіну «губерняй» ці «паўночна-заходнім» краем Расіі. А менавіта гэта было і ёсць альфай і амегай самых запаветных мар і памкненняў усіх вялікадзяржаўных шавіністаў, усіх адэптаў праімперскай ідэалогіі. Тое, што так цяжка давесці да розуму і сэрца мільёнам беларусаў, — ворагам беларушчыны даводзіць не трэба, ім гэта ясна, як божы дзень. А іменна: будзе жыць і займаць пануючае становішча беларуская мова — будзе жыць і панаваць на сваёй зямлі беларускі народ, а значыць — будзе існаваць незалежная дзяржава Беларусь. Адамрэ, перастане гучаць мова — адамрэ, сыдзе з гістарычнай арэны ў небыццё і народ, перастане існаваць беларуская нацыя. Таму ні ў якім разе нельга верыць, што нашы заядлыя барацьбіты за дзве дзяржаўныя мовы нібыта клапоцяцца аб тым і толькі аб тым, каб хаця не была пакрыўджаная ў нас руская мова, хаця б мы тут ад яе не адцураліся, хаця б не аслабла наша валоданне ёю. Ды не баяцца яны за гэта; не баяцца, бо лічаць нас такімі дзікунамі, якія не хочуць ведаць мову вялікага рускага народа. Не, не пра гэта клапоцяцца «нашы дабрадзеі», не пра гэта! Руская мова будзе жыць — ніякага страху за яе лёс у іх няма. А пра што ж яны клапоцяцца? А пра тое, каб перастала жыць наша мова, беларуская! Пра тое, каб пад лозунгам раўнапраўя, аднолькавага статуса дзвюх моў яна ператварылася спачатку ў агідную трасянку, а пасля — паколькі цывілізаваная нацыя трасянку ў якасці дзяржаўнай мовы цярпець не будзе — каб і зусім выпала з грамадскага ўжытку за непатрэбнасцю, каб паціху, непрыкметна датлела і згасла недзе па глухіх закутачках, па апошніх астраўках і выспачках.

Трэба сказаць, што гэты запаветны клопат вялікадзяржаўных шавіністаў ніколі за 75 гадоў савецкай эпохі адкрыта не афішаваўся. У часы «правадыра ўсіх народаў і карыфея ўсіх навук» увогуле было дазволена гаварыць толькі пра небывалы росквіт нацыянальных моў і культур. У часы Хрушчова, Брэжнева і яго наступнікаў нас палымяна пераконвалі, што гэты небывалы росквіт няўхільна вядзе да поўнага зліцця ўсіх моў і культур у адным інтэрнацыянальным катле. Менавіта ў гэты перыяд і былі ліквідаваны апошнія беларускія школы ва ўсіх гарадах і мястэчках Беларусі. Пасля, на мяжы 80-х і 90-х, нам была вернута надзея на адраджэнне, і мы ўхапіліся за яе кволы і крохкі праменьчык. І, як ужо было сказана, — паспелі сёе-тое зрабіць. Але галоўнага не зрабілі. Не дабіліся таго, каб урад Беларусі стаў сапраўды беларускім урадам, а Вярхоўны Савет Беларусі стаў сапраўды беларускім Вярхоўным Саветам. Каб усюды і скрозь у Беларусі адчувалася, што гэта сапраўды беларуская дзяржава.

Год з гакам назад у жыцці нашага народа і краіны здарылася нешта не проста нечаканае, але і неверагоднае. На пасаду прэзідэнта, а г. зн. кіраўніка дзяржавы, прыйшоў чалавек, які, у адрозненне ад усіх сваіх папярэднікаў-генсекаў, адразу ж і адкрыта, прылюдна, на ўсю Беларусь, мову свайго народа падаў такой, нібыта яна і параўнацца не можа з іншымі, — і зрабіў гэта з непрыхаванай пагардай і непрызнасцю да нашай найвялікшай нацыянальнай святыні. Хацеў бы тут напомніць агульнавядомае: у жыцці ёсць рэчы, наконт якіх любы дзяржаўны ці грамадскі дзеяч публічна можа гаварыць або толькі станоўча або не гаварыць зусім. Напрыклад, пра свабоду і незалежнасць сваёй краіны. Гэтак сама, напрыклад, — і пра мову свайго народа. Хоць адзін раз сказаць пра такія рэчы непаважліва, хоць адзін раз засведчыць, што ты іх не шануеш і не цэніш — значыць, тут жа, імгненна і беспаваротна пацярпець маральнае і палітычнае банкруцтва ў вачах усяго цывілізаванага свету. Можна зразумець любыя іншыя вялікія заганы ў жыццядзейнасці дзяржаўнага мужа, — але толькі не **гэта**. **Гэта** — ні зразумець, ні апраўдаць немагчыма. Падобна, што чалавек, які заняў пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, і да гэтага часу не зразумеў, што тады, год з гакам назад, здарылася — які палітычны крах, якая маральная катастрофа. Бо калі б зразумеў — ужо даўно горка раскаяўся б і папрасіў бы ў народа прабачэння. На вялікі жаль, ён не толькі не пакаяўся, не прайшоў праз выратоўчы катарсіс, а наадварот — апантана падаўся гіблай пуцінай далей. Ён з'ініцыяваў сумнавядомы рэферэндум, які, адзін Бог ведае якімі праўдамі і няпраўдамі, падтрымаў яго прапанову аб наданні рускай мове ў Беларусі статуса дзяржаўнай. Рэферэндум, які ў гісторыі нашай краіны назаўсёды застанецца адной з самых чорных дат!

Адбылося самае страшнае, што магло адбыцца. Юрыдычна нас адкінулі ў становішча яшчэ горшае, чым было да 1990 г. — да прыняцця Закона аб мовах і пачатку адраджэння. Бо тады руская мова хоць і панавала паўсюдна, але не была дзяржаўнай — не мела для свайго панавання прававой асновы. Сёння мы з вамі, як і ўсе прыхільнікі і патрыёты беларускага слова, пастаўлены ў вельмі жорсткія ўмовы. Літаральна на другі ж дзень пасля г. зв. рэферэндуму пачаўся адкат назад — асабліва ў сферы адукацыі, у школах і ў дзіцячых садах. З нейкай непрыстойнай паспешлівасцю Міністэрства адукацыі дало распараджэнне фармаваць беларускія і рускія класы па выбару бацькоў. Зрэшты, зразумела чаму. Ведаюць: будзе беларуская школа — значыць, будзе не за гарамі і беларускае грамадства, і беларускі ўрад, і беларускі Вярхоўны Савет, будзе беларуская Беларусь. Ведаюць, што ўсё пачынаецца ў школе і са школы. Як і ў адукацыі, так і ва ўсіх іншых сферах грамадскага жыцця многія грамадзяне няйначай як узрадаваліся таму, што пазбавіліся непрыемнага клопату — што беларускую мову зноў можна і ігнараваць, і не вывучаць, і не ведаць. Натуральна, што ў такіх умовах змагацца за роднае слова, за яго пашырэнне ў грамадскім ужытку стала нашмат цяжэй. І аднак жа нічога іншага нам не застаецца. Упадаць у роспач і бязвольна складаць рукі ў бяздзейнасці мы не маем права. Не маем, аднак жа, права і браць на сябе віну дзяржавы, віну ўрада і Вярхоўнага Савета за лёс нашае мовы, за тое становішча, у якім яна сёння знаходзіцца. Вядома, актыўнасці ў нас было малавата, — прызнаем гэта самакрытычна. У свой час мы залішне паспадзяваліся на тое, што законы ёсць, артыкул у Канстытуцыі ёсць, пэўны пачатак зроблены — і далей усё пойдзе само сабою. Не пайшло і яшчэ доўгі час не пойдзе — аж да той пары, пакуль на ўсе ступені дзяржаўнага кіраўніцтва не прыйдуць да ўлады людзі з той нацыянальнай самасвядомасцю, якая была ў заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе. Людзі з антыбеларускай душой і вывіхнутымі, скасабочанымі супроць незалежнай Беларусі мазгамі росквіту нашай мове на нашай зямлі не забяспечаць.

Паважаныя калегі і сябры! Дзейнасць ТБМ у будучым, на маё разуменне, павінна ісці ў трох накірунках. Першы — абарона нашай мовы ад тых, хто замахваецца на само яе існаванне наогул. Будзем помніць, што тут нам апорай служыць і Закон аб мовах, якога ніхто не адмяняў, і Канстытуцыя. У нас не адабралі права на родную мову і права змагацца за яе. Не адабралі! Проста змянілася сітуацыя. Змяніліся ўмовы, у якіх будзе дзейнічаць ТБМ. Значыць, павінны шукацца і новыя формы працы, адпаведныя часу спосабы змагання за свае правы. Думаю, давядзецца і падаваць у суд, і абіваць парогі начальству, і прымаць усякія іншыя захады, — таму што ніякі добры дзядзька гэтага за нас не зробіць. Прычым, ні ў якім разе нельга паддавацца довадам, што нібыта ў змаганні за роднае слова, у жыццядзейнасці Закона аб мовах намі былі дапушчаны перагібы. На жаль, сёй-той і з нашых сяброў ужо гатовы ў гэта паверыць і нават сам заяўляе падобнае. Ведаючы становішча беларускай мовы, гаварыць пра нейкія перагібы, выбачайце, больш чым дзіўна. Другі накірунак — абарона роднае мовы ад непісьменнасці і бескультур'я. А гэтыя з'явы пашыраюцца. З вялікай горыччу ў душы хачу звярнуць вашу ўвагу на тое, што робіцца сёння з нашай мовай на тэлебачанні, радыё, ды і ў многіх перыядычных выданнях. Такой жахлівай непісьменнасці раней там не было ніколі — нават у самыя цяжкія для беларускай мовы часы. А мы слухаем, чытаем і маўчым. Каб хоць раз у месяц паявіўся ў друку крытычны артыкул, які б абараняў нашу цудоўную мову ад гвалту і непісьменнасці. Няма такіх артыкулаў, на жаль, няма. А якая мова ў аўдыёвізуальным афармленні нашага жыццёвага асяроддзя? Часам — проста немагчыма глядзець і бачыць. І што ж? Ці часта мы з вамі на гэта рэагуем? Ці часта пра гэта гаворым па радыё і пішам у газетах? Ці дапамагаем, дзе трэба, практычна? Трэці накірунак нашай працы — выхаванне пашаны і любові да роднага слова, прапаганда яго дзівоснага хараства і чарадзейнай сілы. Больш, чым хто гэта робяць сёння нашы настаўнікі, у тым ліку і прысутныя тут. Карыстаюся нагодай, каб сказаць беларускаму настаўніцтву шчыры вялікі дзякуй.

Такія галоўныя, на мой погляд, накірункі дзейнасці ТБМ. Лепш за ўсё, калі кожны з нас будзе працаваць на ўсіх гэтых трох накірунках адразу.

Дык поспехаў у працы, сябры!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ! МЫ ПЕРАМОЖАМ!

# 6 кастрычніка, у Доме літаратара

Сёлетнія падзеі не парушылі планаў Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны правесці чарговы, IV з'езд. І вось шостага кастрычніка, цудоўным восеньскім днём у Дом літаратара прыйшлі дэлегаты і госці Таварыства. Хоць паўсюдна былі ўсмешкі ды сардэчныя вітанні, урачыстасці не адчувалася. У вестыбюлі нічога не нагадвала пра з'езд. Пра гэта паведамляла афіша на сцэне, дзе вісела і эмблема Таварыства, да трыбуны быў прымацаваны бел-чырвона-белы сцяг, а наперадзе — лозунг «Спыніць русіфікацыю!».

Калі зала стала запаўняцца людзьмі, настрой, здаецца, пачаў станавіцца больш урачыстым. Здзівіла і ўзрадавала з'яўленне ў зале Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслава Грыба. А калі Ніл Гілевіч паклікаў у прэзідыум з'езда і гэтага шаноўнага госця, і Зянона Пазьняка, і Радзіма Гарэцкага, і Станіслава Шушкевіча, і намесніка міністра культуры і друку Івана Карэнду, то ўрачыстасць падзеі стала адчувацца выразней.

Ніл Гілевіч паведаміў, што ўжо зарэгістраваліся 122 дэлегаты — кворум ёсць — і адкрыў з'езд. Прысутныя ўшанавалі хвілінай маўчання памяць сяброў Таварыства, якія за час паміж III і IV з'ездамі пакінулі гэты свет: Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Барыса Сачанкі, Уладзіміра Калесніка.

Перш далі прамовіць госцю. Мечыслава Грыба шчыра віталі, уважна слухалі: і тэма ягонага выступлення, і дасканалая беларуская мова (а ён жа да абрання яго Старшынём Вярхоўнага Савета не карыстаўся роднай мовай), і ўпэўненасць, рашучасць спадабалася ўсім. Ніл Гілевіч шчыра дзякаваў Мечыславу Грыбу за «важкія» словы.

У сваім справаздачным дакладзе старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны закрануў шмат якія актуальныя праблемы беларушчыны, выказаў сваё меркаванне пра мінулы рэферэндум. Ніл Гілевіч вызначыў і тры асноўныя накірункі дзейнасці ТБМ. Гэта абарона роднай мовы ад тых, хто замахнуўся на само яе існаванне, і абарона яе ад непісьменнасці і бескультур'я, якое апошнім часам асабліва выразна выяўляецца на Беларускім тэлебачанні. Важным накірункам дзейнасці Таварыства павінна быць і выхаванне пашаны ды любові да роднага слова.

Пасля ягонага выступу слова ўзяў намеснік міністра культуры і друку Іван Карэнда. Ён зачытаў тэкст афіцыйнага прывітання Міністэрства культуры і друку з'езду.

Услед за гэтым з справаздачнымі дакладамі выступалі намеснікі старшыні Таварыства Сяргей Запрудскі, Яўген Цумараў, Зміцер Санько ды быў аб'яўлены перапынак.

Гаманліва было ў фае. Сустрэліся даўнія сябры, аднадумцы, абмяркоўваліся выступленні — чуваць было, што больш за ўсё ўзрушылі словы Мечыслава Грыба.

*Я пазнаёміўся з Іванам Драўніцкім, настаўнікам з Нарачанскага краю, які вядзе вялікую краязнаўчую працу, збірае звесткі пра сла-*

*(Заканчэнне на с.4.)*

# «Першацвет» праз тры гады

*(Агляд выдання маладых літаратараў Беларусі)*

Час ляціць хутка, штосьці ў жыцці мяняючы, дапаўняючы, развіваючы. Пад яго лёгкую руку трапіў і «Першацвет», чароўна і нечакана, нібыта папарацькветка. Узор на вокладцы — сімвалічны і паэтычны, нібы вытканы задумлівай рукою рупнай ткачыхі — своеасаблівая візітная картка выдання. А са старонак пазіраюць на чытача адухоўленыя маладыя твары юнакоў і дзяўчат — рамантычна-ўзнёслыя, засяроджаныя, задуменныя. Аўтары — пераважна вучні старэйшых класаў школ, студэнты і выпускнікі ВНУ, маладыя рабочыя і настаўнікі, што робяць першыя крокі ў літаратуры. Калі пагартаць запар некалькі кніжачак, то заўважаецца, што з кожным нумарам прыбаўляецца 4—6 новых імёнаў.

«Першацвету» ўсяго тры гады — першы пробны нумар выйшаў у кастрычніку дзевяноста другога. І за гэты кароткі час ён набыў свой твар, свой адметны профіль, які не пераблытаеш з іншым выданнем. У пэўным сэнсе «Першацвет» — педагагічны часопіс, бо вучыць маладых «на пісьменнікаў». Яго мэта — развіваць таленты пачаткоўцаў, выхоўваць іх нацыянальна свядомымі і культурнымі людзьмі, вучыць грунтоўна працаваць над творам, авалодваць таямніцамі майстэрства і знаходзіць апірышча ў нацыянальным культурным грунце, які дапамагае ратавацца ад бездухоўнасці і бяспамяцтва.

У часопісе шмат раздзелаў. Адны з іх пастаянныя, як «Паэзія . Проза», «Гасцёўня», «Спадчына», «Повязь», «Крытыка», «Жароўня», а іншыя — «Дзённікі», «Успаміны», «Нам пішуць», «Семінар», «Гутарка» — эпізадычныя. Назвы рубрык падказваюць, што часопіс аддае старонкі розным літаратурным жанрам і формам: апавяданню, аповесці, п'есе, лірычнаму вершу, эсэ, інтэрв'ю, успаміну, дзённікавай нататцы, гумару, сатыры. Сярод аўтараў «Першацвета» нямала па-сапраўднаму таленавітых. Так ужо «узбіліся» на ўласныя кніжкі Анатоль Брусевіч, Алесь Пашкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Анатоль Кудласевіч, Ягор Конеў, Лідзія Лукіянава (Адамовіч), жыхарка Украіны Іна Снарская, Кацярына Машкова, Тамара Мазур, Уладзімір Міхно і іншыя. На падыходзе да чытача кнігі Аксаны Данільчык, Алеся Дуброўскага, Ірыны Хадарэнка.

З прачытанага ў часопісе запомніліся паэтычныя творы Сяргея Капыткі, Кацярыны Бруевай, Таццяны Цвірка (да таго ж яна празаік і крытык), Міланы Шушкевіч, Андрэя Кузнечыка, Таццяны Барысюк, Анжэлы Садко, Святланы Казаруай (празаік і музыкант), Міколы Віча, Вольгі Гарбуз, Таццяны Талерчык, Людмілы Семанёнак, Ілоны Сцяцко, Ганны Ціханавай, Таццяны Лапцёнак, Валеры Куставай, Наталлі Дзівінай, Інгі Гаравой, Алеся Дуброўскага, Анатоля Брусевіча і іншых.

З празаікаў заслугоўваюць добрага слова Ніна Мяцельская, Мікола Навумчык, Алеся Чабатар, Алесь Бычкоўскі, Павел Развадоўскі, Святлана Фралова, Руслан Равяка, Наталля Суслава, Таццяна Пяшко, Вольга Угрыновіч-Камінская (таксама паэтка і мастачка), Людміла Дрык і, вядома ж, Сяргей Мандрык, які напісаў выдатную аповесць — «Міф пра смерць».

Цудоўна зарэкамендавалі сябе ў крытыцы Юлія Алесьніна, Ірына Шауляхова, Зоя Паўлава, Алена Скуратовіч, Ягор Конеў, Алесь Дуброўскі, Наталля Якавенка, Святлана Арцяшук, Ала Петрушкевіч, Алесь Пашкевіч, Кірыл Сухоцкі, Алена Стосуй, Вераніка Саламевіч і іншыя.

Заўважу, што ў творчасць ідуць дзеці многіх беларускіх пісьменнікаў, якія выраслі ў атмасферы замілавання да роднага слова і ўвогуле да добрай літаратуры.

У «Першацвеце» таксама з'яўляюцца пераклады. Гэты жанр, як вядома, патрабуе ад перакладчыка вялікага майстэрства і таленту. Прывяду прыклады. У першым выпадку — паэзія амерыканскай паэткі і барда Донны Маркантоніі, творчасць якой, на думку перакладчыка Масея Сяднёва, схіляе на шлях самаўдасканальвання і пазнання сябе (нумар 10—1995); у другім — гэта авангардысцкі твор (паэма) украінскага «вольнага» паэта Уладзіміра Цыбулькі ў перакладзе Юліі Алесьнінай.

Якія матэрыялы пераважаюць у пасобных рубрыках часопіса?

**«Паэзія. Проза»** цалкам аддаецца творчасці пачаткоўцаў. І ў гэтым мне бачыцца найвялікшая заслуга «Першацвета» перад беларускай культурай. Атрымліваючы магчымасць друкавацца, моладзь набывае майстэрства, выспявае духоўна і рана вырываецца наперад. У розных мастацкіх жанрах на старонках гэтага часопіса паспытала пяро ўжо за сотню маладых празаікаў і паэтаў, а ўсяго выданне налічвае каля 150 аўтараў. А гэта азначае, што Саюз беларускіх пісьменнікаў атрымлівае і будзе атрымліваць з гэтай крыніцы значнае папаўненне.

**«Гасцёўня» аддае** перавагу сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў — у кожным нумары паэту і празаіку. На старонках гэтай рубрыкі «гасцявалі» Янка Брыль, Алесь Звонак, Алег Лойка, Юрась Свірка, Сяргей Панізьнік, Яўген Каршукоў, Алена Васілевіч, Віктар Шніп, Валянціна Коўтун, Васіль Жуковіч, Сяргей Новік-Пяюн, Мар'ян Дукса, Іван Карэнда, Алесь Бадак, Мікола Кусянкоў, Мікола Чарняўскі, Янка Золак, Віктар Супрунчук, Алесь Каско, Кастусь Жук і многія іншыя вядомыя пісьменнікі. Тут таксама прасочваецца дыдактычная мэта: вучыць пачынаючых аўтараў на ўзорных творах старэйшых калег.

**«Повязь»** служыць мастком паміж мінулым і сучасным, захоўвае пераемную сувязь пакаленняў, вяртаючы ў гісторыю беларускай літаратуры «невядомых, непрызнаных, не аплаканых нікім», — тых, чый мастакоўскі дар і лёс былі раструшчаны рэпрэсіўным колам сталіншчыны або трагічнымі абставінамі асабістага жыцця. Як сказаў аўтар адной такой публікацыі сп. Гаварушка: «Човен іх паэзіі хоць праз паўстагоддзе дапłыве да нашых душаў». «Повязь» расказала пра такіх сёння забытых пісьменнікаў («ворагаў народа»), як Уладзімір Кліэвіч (№ 1—92), Клім Грыневіч (№ 9—93); Міхась Запольскі (№ 8—93), Віталь Губарэвіч (№ 12—94), Платон Крэнь (№ 11—94) і іншыя.

**«Спадчына»** змяшчае невядомыя творы тых, якіх ужо няма сярод нас, — Пятра Бітэля (№ 10—94), Хведара Чэрні (№ 4—95), Захара Біралы (№ 5—95), Сцяпана Гаўрусёва (№ 3—95). Зрэшты, вандроўку па его запісных кніжках зрабіла Таццяна Барысюк. Учытайцеся ў радкі:

*Перазваніце мне на цымбалах —*
*Я закручуся завірухай.*
*А ты прыйдзі, прыйдзі паслухай.*
*Пакутны боль мяне гняце.*
*Перазваніце на цымбалах,*
*Калі ў лістах апалых*
*Мае не знойдзеце сляды...*

**«Дзённікі», «Успаміны»** знаёмяць з культурнай і творчай спадчынай. Бо, пагадзіцеся, літаратурныя ўспаміны і пісьменніцкія дзённікі заўсёды выклікаюць значную цікавасць, паколькі дазваляюць не толькі глыбей «прачытаць» душу творцы, уведаць яго асабісты лёс, але спасцігнуць і сакрэты творчай лабараторыі. Да такіх публікацый адносяцца «Апошні сшытак» Янa Скрыгана (№ 2—95), «Старонкі горкай долі» Міколы Дудзейкі (там жа), «Разбітыя скрыжалі лёсу» Алеся Звонака (№ 6—95), «Аўра памяці» Уладзіміра Рубанава (№ 5—95) і іншыя.

**«Гутаркі»**. Яе жанр надзённы — інтэрв'ю з «героямі нашага часу», пісьменнікамі, грамадскімі дзеячамі, прадстаўнікамі культуры (Мікалаем Чаргінцом, Анатолем Бутэвічам, Алесем Марачкіным, Андрусём Мельнікавым).

**«Народнае»**. Рубрыка асветніцкая па сваіх мэтах. Далучае чытача да традыцыйнай народнай культуры — песеннай, апавядальнай, каляндарна-абрадавай і інш. Тут друкуюцца і паэты-самавукі (напрыклад, Надзея Ярмак з в.Асіпаўшчына).

**«Крытыка»**. Рубрыка засведчыла аб высокім узроўні літаратурнага аналізу, якога дасягнулі многія маладыя крытыкі з «Першацвета». На яе старонках засвяціліся такія зоркі гэтага жанру, як Ірына Шауляхова («Узмах бясконцага крыла», № 4—94), Юлія Алесьніна («Сонца беларускай прозы», № 2—93 і «Трагедыя душы», № 10—93), Таццяна Цвірка («Танкаваму свету памалюся»), Мікола Віч («Метафара Ул.Хадыкі», № 8—94), Святлана Арцяшук («Тэатр трагічнага аптымізму», № 4—93) і інш.

**«Жароўня»**. Працуючы на выхаванне і развіццё прыродных талентаў, рубрыка **паказала, што гумар — справа сур'ёзная**. Апроч традыцыйных формаў «досціпу» — пародыя, фельетон, мініяцюра, сяброўскі шарж, апавяданне, а таксама запушчаны ў творчую практыку яшчэ Ведзьмаком Лысагорскім вершаваны аповяд (сказ) на тэму будзённага жыцця нашых творцаў-пісьменнікаў (прыкладам якога ў «Першацвеце» служыць «Вершасмех» Дамавіка Выдавецкага), публікуюцца і такія арыгінальныя «самаробкі» ў галіне формы, як «Вымудры» Валерыя Пазнякевіча (№ 7—95), «Вершы-недарванкі» Аўдзея Дабрадзея, «Вершашнур» Віктара Жыбуля, «Думкі ў ёлачку» і іншыя. Пішуць для «Жароўні» Анатоль Крэйдзіч, Сяргей Важнік, Ігнат Сцізорык, Сяргей Шаміёнка, Міхась Скобла, Ілона Сцяцко, Сяржук Мінскевіч, Язэп Палубятка і іншыя.

**«Нам пішуць»**, **«Семінар»**. Да гэтых рубрык можна адрасаваць падзагаловак «Вучымся». І тут мы падышлі да пытання: якім чынам непасрэдна ажыццяўляецца прафесійная вучоба пачаткоўцаў? Аднойчы я пабыла на занятках творчага аб'яднання «Літаратар», якое праводзіцца ў рэдакцыі «Першацвета» па панядзелках, і зразумела, што ўсё адбываецца ў форме своеасаблівых семінараў, на якіх у працэсе спантаннай гутаркі высвятляюцца пытанні прыроды таленту, псіхалогіі творчасці, сакрэты майстэрства, роля фантазіі і роля «чыстай красы» ў індывідуальным развіцці асобы творцы, інакш кажучы, сацыяльная, біялагічная і генетычная сувязь мастака з роднай глебай, з народам. На семінарскія заняткі запрашаюцца пісьменнікі, мастакі, навукоўцы. У сакавіцкім нумары «ЛіМа» была апублікавана гутарка сяброў літаб'яднання «Першацвет» з народным пісьменнікам Янкам Брылём пад назвай: «Хораша, што вы ідзяце ў літаратуру, у родную мову». У галаслоўнай форме цяжка пераканаўча вызначыць карысць такіх урокаў для маладых літаратараў, і я не бяруся тут гэта рабіць. Скажу толькі, што пасля прачытання названага інтэрв'ю падумала: «Якое шчасце, што наша моладзь вучыцца ў класікаў, як колісь у Купалы і Коласа». Мне пашчасціла таксама прысутнічаць на сустрэчы сяброў літгуртка са скульптарам Эдуардам Астаф'евым, мастаком своеасаблівым, таленавітым, які стварыў скульптурныя партрэты Багдановіча, Скарыны, Багушэвіча і які ад Беларусі і беларускай нацыі сябе не аддзяляе. «Я беларус рускага паходжання, — сказаў ён моладзі. — Тут я жыву, дзеля Беларусі працую і пахаваюць мяне тут». Гэта ўрок, ды яшчэ які, зрусіфікаваным вучням менскіх гарадскіх школ, што ідуць цяпер у беларускую літаратуру, выкарчоўваючы ў сабе звычку думаць «па-руску».

Рубрыка «Семінар» ажыццяўляе прафесійную адукацыю першацветаўцаў на ўзроўні, які разлічаны на больш шырокую — чытацкую аўдыторыю.

У працэсе заняткаў літгуртка адбываецца натуральны адбор талентаў. Пасля другога-трэцяга праслухоўвання твораў маладога аўтара і іх калектыўнага абмеркавання лепшыя з гэтых твораў галоўны рэдактар часопіса Алесь Масарэнка адбірае да друку. Я прысутнічала пры такой працэдуры нараджэння паэта. Гэта быў Віктар Жыбуль, вучань 11-га класа, які пісаў і думаў па-руску, але вось трапіў у літаб'яднанне і абудзілася ў ім нацыянальная свядомасць — стаў пераасэнсоўваць жыццёвыя каштоўнасці. У выніку загаварыў на роднай мове. Зараз Жыбуль — студэнт філфака БДУ і супрацоўнік выдання, якое дало яму пуцёўку ў жыццё. Дарэчы, па рэкамендацыі рэдкалегіі «Першацвета» сёлета пайшлі вучыцца на філфак яшчэ сем сяброў літаб'яднання «Літаратар».

Сённяшні дзень «Першацвета» — час яго росквіту. Дасягненнем, скажам, восьмага нумара стала публікацыя літаратурнай спадчыны беларускага паэта Міколы Сазонава пад назвай **«Нараджэнне цішыні», які ў 1990 годзе** быў па-зверску забіты на Ямале. Заклікаю вас, паважаныя спадары, прачытаць гэту «кнігу ў кнізе».

Сёння цяжка паверыць, што «Першацвет» існуе так нядаўна і работу па яго стварэнні Алесь Масарэнка пачынаў фактычна з нуля, а менавіта з пасады літкансультанта ў «Чырвонай змене» ўжо пасля таго, як гэтая пасада ў газеце была скасавана, а аддзел «Літаратура і мастацтва», які раней працаваў з маладымі аўтарамі, перайменаваны ў «Культуру». Фактычна пачынаючыя пісьменнікі засталіся без сваёй літаратурнай старонкі ў газеце і без усялякай прафесійнай дапамогі. Алесь Масарэнка, у той час ужо вядомы празаік, паэт і крытык, пагадзіўся працаваць з маладымі на грамадскіх пачатках. Урэшце яму ўдалося дамагчыся аднаўлення пасады літкансультанта і чатырохпалоснай «Крыніцы» ў былым штотыднёвіку «Чырвоная змена». Фактычна літаратурны выпуск «Крыніцы» і стаў грунтам для заснавання беларускамоўнага часопіса маладых літаратараў. Сёння Алесь Масарэнка з удзячнасцю ўспамінае рупліўцаў беларускай культуры Алега Лойку, Ніла Гілевіча, Станіслава Шушкевіча, Васіля Зуёнка, Анатоля Бутэвіча, Уладзіміра Бельскага, якія падтрымалі маладое выданне словам і справай.

Зараз «Першацвет», як і іншыя беларускія выданні, перажывае цяжкія часы: няма свайго памяшкання, пакварталыныя падпісныя кампаніі зрываюць падпіску, а матэрыяльная незабяспечанасць супрацоўнікаў адбірае права на годнае чалавека існаванне. І ўсё ж, як кажуць, маладым і мора па калена. «Першацветаўцы» ў добрай творчай форме, захопленыя сваёй справай, з верай і надзеяй глядзяць у будучыню. Пажадаем жа «Першацвету» — крыніцы святла і дабра, на старонках якога раз-пораз успыхваюць зорачкі новых талентаў, плёну ў працы і поспехаў у чытача.

**І.ПЛАТОНАВА.**

# Кола сям'і

*З гэтага нумара газета «Наша слова» пачынае друкаваць у рубрыцы «Кола сям'і» ўрыўкі з кнігі Масару Ібука «Пасля трох ужо позна». «Дзіця неабходна правільна выхоўваць ад самага нараджэння, — запэўнівае аўтар, які з'яўляецца стваральнікам сусветна вядомай фірмы «Соні». Кніга Масару Ібука — на дзіва добрая кніга. А яго тэорыя выхавання дзяцей — адна з самых цікавых і плённых, якія з'яўляліся ў сусветнай педагогіцы. Якія ў нас падставы давяраць парадам Масару Ібука? Вось якія доказы дае на карысць гэтага Глен Даўман, дырэктар Інстытута развіцця патэнцыяльных магчымасцяў чалавека (Філадэльфія, ЗША):*

*«1. Ён не спецыяліст у тэорыі адукацыі, значыць, не ведае, што можна, а што нельга. Неабходная ўмова для здзяйснення значнага прарыву ва ўсталяванай галіне.*

*2. Ён, безумоўна, геній. Распачаў сваю дзейнасць у 1947 годзе, калі яго краіна была спустошаная, ён з трыма маладымі кампаньёнамі і 700 доларамі ў кішэні заснаваў фірму, якую назваў «Соні»...*

*3. Ён не толькі гаворыць, але і робіць. У якасці выконваючага абавязкі дырэктара Асацыяцыі ранняга развіцця і дырэктара арганізацыі «Абучэнне талентаў» у Мацумота ён дае магчымасць тысячам японскіх дзяцей вучыцца па праграме, што апісаная ў гэтай кніжцы».*

*«Я думаю, што прапанаваная кніжка — адна з самых важных кніг, калі-небудзь напісаных. І я думаю, што яе павінны прачытаць усе жывучыя на Зямлі бацькі», — так гаворыць пра кнігу «Пасля трох ужо позна» пан Г.Даўман. Думаецца, што наша публікацыя выкліча інтарэс і ў бацькоў, якія чытаюць «Наша слова».*

***Л.Ш.***

***Масару ІБУКА***

## Пасля трох ужо позна

*Частка 1*

## Патэнцыяльныя магчымасці дзіцяці

### *1. Важны перыяд*

**Дзіцячы сад — гэта ўжо позна**

Напэўна, кожны з вас памятае са школьных гадоў, што ў класе быў асабліва адораны вучань, які без відочных намаганняў рабіўся лідарам класа, у той час як іншы цягнуўся ў хвасце, як бы ні стараўся.

У мае гады настаўнікі заахвочвалі нас так: «Разумны ты ці не, гэта не спадчыннасць. Усё залежыць ад тваіх уласных намаганняў». І ўсё ж асабісты вопыт відочна паказваў, што выдатнік — заўжды выдатнік, а двоечнік — заўжды двоечнік. Здавалася, што інтэлект прадвызначаны ад самага пачатку. Што было рабіць з гэтай неадпаведнасцю?

Я зрабіў выснову, што здольнасці і характар чалавека не прадвызначаны ад нараджэння, а большай часткай фарміруюцца ў пэўны перыяд яго жыцця. Даўно ідзе спрэчка: фарміруе чалавека спадчыннасць ці тая адукацыя і выхаванне, што ён атрымлівае? Да сёння ні адна больш-менш пераканаўчая тэорыя не завяршыла гэтыя спрэчкі.

Нарэшце, даследаванні фізіялогіі мозгу, з аднаго боку, і дзіцячай псіхалогіі, з другога, паказалі, што ключ да развіцця разумовых здольнасцяў дзіцяці — гэта яго асабісты вопыт у першыя тры гады жыцця, г.зн. у перыяд развіцця мазгавых клетак. Ні адно дзіця не нараджаецца геніем і ні адно — дурнем. Усё залежыць ад стымуляцыі і ступені развіцця галаўнога мозгу ў вырашальныя гады жыцця дзіцяці. Гэта гады ад нараджэння да трохгадовага ўзросту. У дзіцячым садку выхоўваць ужо позна.

*(Працяг будзе.)*

# *Мудрыя гавораць*

**Фрыдрых Ніцшэ** — адна з самых цікавых і адыёзных фігур у сусветным пантэоне мысліцеляў. Будучы паэт, філосаф, мысліцель нарадзіўся ў дзень нараджэння прускага караля (1844) і ў яго гонар быў названы Фрыдрыхам Вільгельмам. Некалькі год пасля кароль звар'яцеў. Трохі пазней звар'яцеў і бацька Ніцшэ, а сам ён апошнія адзінаццаць год жыцця, да смерці ў 1900 годзе, знаходзіўся ў вар'ятні. Усё, што паспеў напісаць Фрыдрых Ніцшэ за сваё жыццё, напісанае фактычна за васемнаццаць-дзевятнаццаць год паўнавартаснага жыцця. І поўны збор яго твораў налічвае шаснаццаць тамоў.

Ужо ў дваццаціпяцігадовым узросце Ніцшэ зрабіўся прафесарам класічнай філалогіі і загадчыкам кафедры ў Базельскім універсітэце (Швейцарыя). Аднак душэўная хвароба не дазволіла Ніцшэ займаць гэты пост доўга — у 1879 годзе ён адыходзіць з універсітэта, бадзяецца па свеце, пакутуе ад фізічнай хваробы і самоты... Ніцшэ стварыў новую філасофію, якая прынцыпова адрознівалася ад усіх вядомых філасофскіх плыняў. У творчасці Ніцшэ вылучаюць звычайна тры перыяды: першы — абагаўленне мастацтва, галоўным чынам Вагнера, другі — узнясенне навукі з яе ідэалам дакладнасці. Трэці — выказванне ўласных ідэяў, якія і ўвасабляюць для нас філасофію Ніцшэ: моц жыцця, воля да ўлады, звышчалавек, перагляд усіх каштоўнасцяў і г. д. Асноўная думка Ніцшэ, якую можна вылучыць з усіх яго твораў: адзіная каштоўнасць жыцця — фізічнае жыццё, аснову чалавечага існавання складае біялагічны факт. Жыццё чалавека не мае якой-небудзь знешняй мэты; чалавек мае мэту ўнутры сябе: яго мэта — гэта жыццё.

Філосаф-вар'ят лічыў, што ідэальным грамадствам будзе тое, дзе будуць кіраваць звышлюдзі — «вышэйшая раса», якія дасканалыя перш за ўсё фізічна. Яны не будуць мець ні сацыяльных, ні рэлігійных, ні побытавых абмежаванняў і таму будуць вольнымі... Усіх людзей Ніцшэ падзяляў на паноў і рабоў — у залежнасці ад іх псіхалогіі, прыродных дадзеных. Ён лічыў, што ў свеце пануе рабская маральнасць — таму што рабы перамаглі паноў сваёй колькасцю. Таму ў свеце павінна была быць адноўлена першапачатковая маральнасць — паноў. Яна выключае паняцце роўнасці — кожны мае столькі, колькі здольны мець. Выкрасленымі з гісторыі чалавецтва мусяць быць і такія каштоўнасці, як міласэрнасць, спачуванне, любоў да бліжняга, справядлівасць, перавага духоўных каштоўнасцяў над матэрыяльнымі, грамадскіх інтарэсаў над асабістымі... У пачатку XX стагоддзя пад уплывам філасофіі Ніцшэ знаходзілася значная частка еўрапейскай, у тым ліку расійскай, інтэлігенцыі. З сапраўднай сатанінскай гордасцю прарочыў Ніцшэ: «Я ведаю свой лёс... Калі-небудзь маё імя будзе звязанае з памяццю пра крызіс, роўнага якому не бачыла зямля, найвялікшы канфлікт сумлення, адмена ўсяго, у што да часу верылася, што лічылася патрэбным, чаму пакланяліся. Я — не чалавек, я — дынаміт!»

Няма патрэбы аналізаваць тут наступствы, што прынесла свету такая філасофія, не варта займацца абвяржэннем яе пастулатаў — кожны нармальны чалавек, які верыць у Бога і жыве па адвечных законах чалавечай маралі, успрыме выказванні Ніцшэ проста як факт сусветнай філасофіі. Той жа, хто жыве па законах «расы паноў», можа ніколі не чуць пра філасофію Ніцшэ, але пацвярджае ўсе яе высновы сваімі ўчынкамі... Пазнаёмім чытачоў «Нашага слова» з цікавымі выказваннямі філосафа з яго вядомага твора «Па той бок дабра і зла».

**Л.Ш.**

Каханне да аднаго з'яўляецца варварствам, бо яно ствараецца ва ўрон іншым.

«Я гэта зрабіў», — гаворыць мне мая памяць. — «Не, не я гэта зрабіў», — гаворыць мая гордасць і застаецца непахіснай. І памяць, нарэшце, саступае.

Хто дасягае свайго ідэала, той разам з тым робіцца вышэй за яго.

У мірны час ваяўнічы чалавек нападае на самога сябе.

Жанчына навучаецца ненавідзець па меры таго, як развучваецца зачароўваць.

Аднолькавыя афекты ў мужчыны і жанчыны розняцца па тэмпе: вось таму і не перапыняюцца непаразуменні паміж мужчынам і жанчынай.

Жахлівыя падзеі прымушаюць задумацца, ці не ўяўляе з сябе чагосьці жахлівага і той чалавек, які перажывае гэтыя жахлівыя падзеі.

Знайсці ўзаемнае каханне — гэта, уласна, значыла б адкрыць вочы любячаму чалавеку на каханую істоту. «Ці яна дастаткова сціплая, каб кахаць цябе? Ці дастаткова тупая?»

Дзе ў гульні няма ні кахання, ні нянавісці, там жанчына іграе сярэдне.

Сарамлівасць адштурхоўвае ўсіх сапраўдных жанчын ад навукі. Яны адчуваюць пры гэтым быццам ім зазіраюць пад скуру ці — яшчэ горай! — пад сукенку і ўборы.

Абодва полы падманваюцца ў адносінах адзін да аднаго: гэта адбываецца таму, што па сутнасці яны паважаюць і кахаюць толькі саміх сябе (ці свой уласны ідэал, кажучы больш прыстойнай мовою). Мужчына хоча спакойнай жанчыны, а жанчына па сутнасці аказваецца звяглівай, як кошка, дык яна вывучваецца хаця б знешне здавацца міралюбнай.

Лепш за ўсё атрымліваць пака-ранне за свае даброты.

У помсце і каханні жанчына выяўляе больш варварства, чым мужчына.

Тое, што робіцца з-за кахання, заўсёды робіцца па той бок дабра і зла.

Паэты бессаромна ставяцца да свайго мінулага: яны эксплуатуюць яго.

«Нашым бліжнім з'яўляецца не наш сусед, а сусед гэтага суседа», — так думае кожны народ.

У рэшце рэшт кожны любіць свае жаданні, а зусім не тое, што з'яўляецца прадметам яго жаданняў.

«Ён не падабаецца мне? — Чаму? — Я не дарос да яго». — Ці адказаў так хаця адзін чалавек?

***Здароўе***

***Таццяна ФАМІНА,***
***кандыдат медыцынскіх навук***

## Хваробы органаў стрававання

Цяпер практычна няма людзей, якія б ні скардзіліся на парушэнні функцыянавання органаў стрававання. Гэта вынік не толькі дрэннага і нерэгулярнага харчавання, пападання ў страўнік радыенуклідаў ды шкодных рэчываў. Парушэнні ўзнікаюць ад лішку стравы, ад курэння ды іншых шкодных звычак спажываць шмат алкагольных напояў, кавы, моцнай і гарачай гарбаты, кока-колы ды іншых газаваных танізуючых напояў, вострых, тлустых і смажаных страў. Але не пазбягаюць такой долі і аматары печыва ды іншых кандытарскіх вырабаў, сасісак, вяндліны, кансерваванага мяса, сала. Не менш шкоды можа нарабіць і другая крайнасць — ежа без тлушчу.

Асобна трэба сказаць, што органам стрававання непапраўна шкодзяць непажаваная ежа ды звычка курыць нашча.

**Хранічны гастрыт**

Хранічны гастрыт — гэта запаленне слюзавай і падслюзавай абалонак страўніка са схільнасцю да атрафіі страўнікавых залозаў і сакраторнай недастатковасці страўніка. Цягам часу могуць узнікаць і хваробы, што звычайна спадарожнічаюць гастрыту або ўзнікаюць на «падрыхтаванай» ім глебе: язва страўніка, каліт, панкрэатыд, халецыстыт, анкалагічныя хваробы страўніка ды кішачнага тракту.

Да прычынаў, што спрыяюць узнікненню гастрыту, апроч згаданых, далучаюць і частае спажыванне лекаў, асабліва такіх, як аспірын, глюкакартыроідныя гармоны, гіпатэнзіўныя сродкі (што паніжаюць крывяны ціск), а таксама спадчыннасць. Апошнім часам умацоўваецца меркаванне навукоўцаў, што часцей прычынай гастрыту з'яўляецца мікроб — пілдарычны гелікабактар.

Спрыяюць развіццю гастрыту паталогія эндакрынных залозаў, анемія (малакроўе), гіпавітаміноз (недахоп вітамінаў), хранічныя інфекцыйныя захворванні (танзіліт, карыес, халецыстыт, панкрэатыд), хваробы сэрца і нырак.

Найбольш лёгкай формай хваробы з'яўляецца паверхневы гастрыт з нязначнымі запаленчымі зьмяненнямі слюзавай абалонкі. Праз далейшае ўздзеянне неспрыяльных фактараў складкі слюзавай абалонкі разрастаюцца, павялічваецца колькасць страўнікавага соку і слюзу. Прыкладна ў кожным дзесятым выпадку гастрыту назіраецца эрозія слюзавай абалонкі, што становіцца адной з прычынаў страўнікавага кровацячэння. Змяненні залознага апарату слюзавай абалонкі вядуць да павышэння або паніжэння кіслотнасці. Абалонкавыя клеткі, якія яшчэ захаваліся, пакрываюцца слюзам, а ў слюзавай абалонцы страўніка развіваюцца мікрацыркулярныя парушэнні (венозны застой, мікратрамбозы, прылівы крыві ды крапельныя крывацёкі з пашкоджанай абалонкі). Выразныя змяненні слюзавай абалонкі страўніка, а нават эрозіі ды язвы асабліва часта здараюцца, калі адбываюцца выкіды назад у страўнік той масы, што ўжо трапіла ў дванаццаціперсную кішку. А такія выпадкі часта надараюцца ў надта нервовых людзей.

Наогул жа хворыя на хранічны гастрыт раздражняльныя, у іх пацеюць рукі і ногі, яны часта адчуваюць боль у сэрцы, паніжэнне артэрыяльнага ціску. Часам такія людзі адразу пасля яды адчуваюць боль «пад лыжачкай», скардзяцца яны і на адрыжку (паветрам ці ежай), гаркаваты ці металічны прысмак у роце, бурчанне і булькання ў жываце ды іншыя кішэчныя прыкрасці. У выніку дрэннага стрававання людзі, што доўга хварэюць на гастрыт, маюць «нездаровы» колер скуры твару, худзеюць, у іх крывавяць дзясны, выпадаюць валасы, становяцца крохкімі пазногці.

Пры выразным абвастрэнні хваробы (сталае адчуванне болю, ванітаванне, пахудзенне) трэба звярнуцца да доктара дзеля пільнага лекарскага абследавання. Не адмаўляйцеся і ад уяўна непрыемнай працэдуры гастраскапіі — нутранога агляду страўніка. Калі будзе вядомы ягоны стан, а таксама аналіз страўнікавага соку, доктар зможа прызначыць адпаведнае лячэнне. Варта памятаць, што поспех лячэння будзе залежаць у значнай меры ад правільнага харчавання. Пра гэта наступным разам.

***Аптэка танных лекаў***

## Бульба

У індзейцаў Паўднёвай Амерыкі нездарма існаваў культ бульбы — яна мае шмат карысных рэчываў. Сама больш вітаміну C, але не мала іншых: амаль увесь комплекс вітамінаў групы B ($B_1$, $B_2$, $B_5$, $B_6$), караціноіды (з іх утвараецца вітамін A), стэрыны, арганічныя кіслоты (кававая, хлорагенавая, лімонная, шчаўевая, яблычная). Усе яны незаменныя для нармальнага функцыявання арганізма. Важную лекавую вартасць маюць мінеральныя солі, з якіх у бульбе пераважае калевая, каль (лац. kalium) неабходны дзеля спраўнай працы сэрца.

Вугляводы (крухмал, пекцінавыя рэчывы, глюкоза, фруктоза, цукроза), якіх таксама шмат у бульбе, — не толькі сыравіна для вытворчасці спірту, глюкозы. Яны выкарыстоўваюцца як лекавыя сродкі. Прыкладам, крухмал выкарыстоўваецца ў клізмах, а таксама і як сродак дзеля аховы слюзавай абалонкі страўніка ў выпадку атручвання. Завараны на кісель крухмал п'юць пасля таго, як будзе «прамыты» страўнік. Крухмалам пасыпаюць месцы апёкаў і прэлую скуру ў немаўлятак. Таксама і глюкоза, якую прамыслова атрымоўваюць з бульбы, не толькі лёгка засваяльны харчовы прадукт. Яе выкарыстоўваюць у кровазамяняльнай ды супрацьшокавай вадкасцях.

Народныя лекары здаўна выкарыстоўвалі свежы бульбяны сок для лячэння гастрыту, язваў страўніка і дванаццаціперснай кішкі (500 г бульбы сцерці, адцісну праз марлю; сок п'юць па палавіне ці трэці шклянкі перад ядой: рана і ў абед цягам 2—3 тыдняў). Бульбяныя паравыя інгаляцыі раяць ад моцнага сухога кашлю. Неабходна спарыць неабабраную бульбу ў невялікай колькасці вады і, калі яна будзе гатовая, накрыць ручніком ды, схіліўшыся над каструляй, хвілін 10—15 дыхаць бульбяной парай.

Цёртай бульбай лечаць апёкі, а таксама і экзему.

**З.С.**

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕРАЦЕ́РЦІ** (разарваць, раздзяліць на часткі трэннем) *Такое было, калі добрая рыбіна возьмецца і ў час яе не выхапіць, Яна можа лёску аб край палонкі перацерці* (Савіцкі), **ПЕРАШАРАВА́ЦЬ** *Кола перашаравала вяроўку,* **ПЕРАШМУЛЯ́ЦЬ** размоўнае *Перашмуляць шпагат.* — *Незак.:* **Перацірáць, перашарóўваць, перашму́льваць.**

**ПЕРАЦЕ́РЦІСЯ** (распасціся на часткі ад трэння) *[Дачка:] — А калі ператрэцца напарстак? Тады ні напарстка не будзе, ні ў хаце вады...* (Дубоўка), **ПЕРАШАРАВА́ЦЦА** *Сырамяць перашаравалася,* **ПЕРАШМУЛЯ́ЦЦА** разм. *Як толькі дзядзька Адам стаў на жардзіну і пачаў на ўсю сілу падбіваць, дык ці то таму, што перашмулялася вяроўка, ці таму, што хлопцы нядбайна прывязалі жардзіну, яна пасунулася ўніз, і Адам паляцеў на зямлю* (Сабаленка). — *Незак.:* **Перацірáцца, перашарóўвацца, перашму́львацца.**

**ПЕРАЦІ́СНУЦЬ** (вельмі туга сціснуць што-н. або перавязаць, сцягнуць чым-н.) *Раман склаў усё ў вузел і перацісную яго папругай* (Чарнышэвіч), **ПЕРАЦЯ́ЦЬ і ПЕРАТНУ́ЦЬ** *Калі Юрка згінаўся і нацягваў ленту, чуў, што дрыжаць рукі. Пасля не хацелася адгінацца: балела паясніца, аж рэзалася, бы яе перацялі мокрым пяньковым путам* (Пташнікаў). *Рыгор вызваліў руку і перацяў ёю Лібіну паясніцу* (Гартны), **ПЕРАЦЯГНУ́ЦЬ** *Надзя адарвала яшчэ шкумат ад сваёй кашулі, перацягнула рану, уссунула валёнак* (Бураўкін). — *Незак.:* **Перацíскаць, перацíнаць, перацягваць.**

1. **ПЕРАЦЯГНУ́ЦЬ** (з намаганнямі, не адрываючы ад паверхні чаго-н., перамясціць з аднаго месца на другое) *Лодку перацягнулі цераз дарогу каля моста без асаблівай цяжкасці* (Брыль), **ПЕРАВАЛА́ЧЫ** *Пераналачы лодку па беразе* (Чыгрынаў). — *Незак.:* **Перацягваць, перавалакаць і перавалакваць.**

2. **ПЕРАЦЯГНУ́ЦЬ** разм. (аказаўшы падтрымку, садзейнічанне, угаварыць каго-н. пакінуць якое-н. месца, пасаду, калектыў і пад. дзеля каго-, чаго-н. іншага) *[Вэня:] — Памятаеце, як я ўспомніў пра вас і перацягнуў вас з мястэчка сюды?* (Чорны), **ПЕРАВА́БІЦЬ** (прыцягваючы чым-н. больш выгадным, прывабным, угаварыць перайсці на другую пасаду, у другое месца) *Вежа прыбавіў ёй [Галене] пенсіі, плаціў цяпер сто рублёў, абы толькі не перавабілі ў губернскі тэатр* (Караткевіч), **ПЕРАМАНІ́ЦЬ** *Чым, чым не прываблівалі мы Мішку, каб пераманіць у свой полк* (Лынькоў), **ЗМАНІ́ЦЬ** разм. *Павінна ж была яна пайсці з фабрыкі-кухні, куды яе змяніла з будаўніцтва аўтазавода аматарка «лёгкага жыцця» Зіна Гайдук і дзе былі ў пашане крадзяжы і п'янкі* («Полымя»). — *Незак.:* **Перацягваць, перавáбліваць, перамáньваць, змáньваць.**

1. **ПЕРАШКОДА** (тое, што перагароджвае шлях, перапыняе, затрымлівае рух) *Блiснула сталь, і калючая перашкода была перарвана* (Самуйлёнак), **ПЕРАПО́НА** *Перад мостам пагрозліва стаяла перапона — з крыг — бруд на амаль расталым снезе, пад ім ледзяныя сіняватыя вылашчаныя вадою бакі льдзін* (Жук), **ПЕРАГАРО́ДКА** разм. *Рэчка паслабляла нямецкі націск, варожыя танкі вымушаны былі стаяць перад вадзяной перагародкай* (Мележ), **ЗАМІ́НКА** *Кожная грудка лёду, кожны парог-гарбінка, выступ зямлі, узгорачак становяць ім [ручайкам] замінкі.. ў іх імклівым руху* (Колас), **ЗАМІ́НІШЧА** разм., узмацняльнае. *Хочаш дарогі, значыць. Сухенькай... Чысценькай.. І каб замінішча не было* (Пташнікаў).

1. **Перашкода**. У якасці англійскіх адпаведнікаў выступаюць сінонімы **barrier, obstacle, obstruction**. Усе тры назоўнікі з'яўляюцца пазычанымі, сярод якіх у адрозненне ад беларускіх сінонімаў, няма размоўных адзінак.

### Папытай у кнігарні

## РАМАНТЫЗАЦЫЯ ГІСТОРЫІ

Зацікаўлены чытач, думаецца, даўно заўважыў на старонках перыядычных выданняў Беларусі рамантычныя гісторыка-біяграфічныя нарысы пра цікавых асоб з гісторыі нашай краіны, што належаць пяру творчага тандэма Ірыны Масляніцынай і Міколы Багадзяжа. Зараз на паліцах кнігарняў з'явілася кніга гэтых аўтараў «Слава і няслаўе», у якой сабраны нарысы пра жанчын, жыццё і дзейнасць якіх у той ці іншай ступені звязаны з беларускай зямлёй. Чытач зможа пазнаёміцца з аповядамі пра такіх легендарных асоб, як Рагнеда, Марына Мнішак, Ефрасіння Полацкая, Барбара Радзівіл, расійская царыца Екацярына II, а таксама пра тых, чые імёны на Беларусі вядомыя толькі спецыялістам-гісторыкам, хаця заслугоўваюць увагі не менш: паплечніцаў Ефрасінні Полацкай — Еўдакію і Еўпраксею; жонку Аляксандра Неўскага Аляксандру Брачыслаўну; Альдону Гедымінаўну, каралеву Польшчы, Анастасію Алелькавіч, жанчыну-рыцара, ды іншых. Цэлая галерэя партрэтаў легендарных прыгажунь праходзіць перад позіркам чытача. Стылю аўтараў уласціва рамантызацыя фактычнага матэрыялу, ледзь не міфалагізацыя. Кніга чытаецца як белетрыстычны твор, лёгка і з цікавасцю. Напэўна, многія гісторыкі (асабліва суседніх краін) будуць аспрэчваць падачу ў кнізе «Слава і няслаўе» некаторых гістарычных фактаў. Што ж тычыцца тых, каму дарагая беларуская гісторыя і хто шукае ў ёй цікавыя сюжэты для мастацкіх твораў, дык зборнік нарысаў І.Масляніцынай і М.Багадзяжа — менавіта такая крыніца. Дарэчы, у самой кнізе выданне вызначаецца як навукова-папулярнае і адрасаванае вучням старэйшага школьнага ўзросту. Цікавым з'яўляецца афармленне кнігі, у якім выкарыстаны малюнкі многіх вядомых мастакоў. Выдадзена кніжка накладам 14 тысяч паасобнікаў у выдавецтве «Народная асвета».

Л.Ш.

*Гісторыя моваў на Беларусі*

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

*«...Які ж ты, які багаты,*
*Старонкі маёй напеў!»*
**Віктар Ракаў.**

## Як гаварыла вёска

**(Тэрытарыяльныя дыялекты)**

*(Працяг.)*

Мы пазнаёміліся з сістэмай сучасных тэрытарыяльных дыялектаў беларускай мовы тэарэтычна: усвядомілі для сябе геаграфію іх пашырэння, асноўныя моўныя паказчыкі кожнага з іх. Настаў час азнаёміцца з кожным з іх практычна, у непасрэдным назіранні. Для гэтага ніжэй прыводзяцца тэксты ў перакладзе на асобныя гаворкі з кожнага з дыялектаў або груп гаворак. Яны розныя, гэтыя галасы роднай зямлі. З якога б багатага і чароўнага краю ні вяртаўся, а калі пачуеш той з іх, які чуў ад маці, лежачы ў калысцы, то на вачах выступяць слёзы... Тут яны сабраныя, быццам букет палявых кветак з-над Дзвіны, з-над Нёмана, з-над Шчары, з-над Буга, з-над Прыпяці, з-над Сожа, з-над Дняпра... Усцешцеся іх водарам.

**Паўночна-ўсходні дыялект.** «Паехаў мужык у горад за аўсом длі каня, толькі што выйіхаў зь дзярэўні, конь стаў заварачаваць назат к дому. Мужык ударыў каня пугай. Ён пашоў і думаіць пра мужыка: «Куды ён, дурак, міне гоніць; луччы п дамоў». Ні даіжджая да горада, мужык відзіць, што каню цяжка па гразі, зьвярнуў на маставую, а конь верніць прэчь ат маставой. Мужык ударыў пугай і тарганўў каня: ён пашоў на маставую і думаіць: «Нашто ён міне пувярнуў на маставую, толькі капыты абламайіш. Тут пад нагамі дужа цьверда». Мужык пад'ехаў к крамі (к магазіну), купіў аўса і паехаў дамоў. Калі прыехаў дамоў, даў каню аўса. Конь стаў есьці і думаіць: «Якійі людзі дурныйі! Толькі любюць над намі камандаваць, а розуму ў іх менш, чым у нас. Чаго ён стараўся? Некуды езьдзіў і міне ганяў. Скалькі мы ні езьдзілі, а вярнулісі дамоў. Луччы п атразу аставацца нам ізь йім дома; ён бы сядзеў на печы, а я п еў авёс». (Паводле Льва Талстога, на гаворку вёскі Турасполле Ушацкага р-на Віцебскай вобласці пераклаў аўтар.)

**Паўднёва-заходні дыялект**. Паехаў мужык у горад за аўсом каню. Як толькі выехаў з села, конь пачаў павернáць назад дадому. Мужык уліменіў каня пугай. Ён пайшоў і думае пра мужыка: «Куды ён, дурань, мене гоніць; хай бу ж дадому». Не даежжаючы гораду, мужык бачыць, што каню важка па гразі, звернуў на шасейку, а конь верне прэч ад шасейкі. Мужык уліменіў пугай і се́пнуў каня; ён пайшоў на шасейку і думае: «Зачым ён мене звернуў на шасейку, толькі капыты абломіш. Тут пад нагамі цупка».

Мужык пад'ехаў да крамы (лаўкі), купіў аўсу і паехаў дадому. Калі прыехаў дадому, даў каню аўсу. Конь пачаў есці і думае: «Якіе людзі прыдуркаватые. Толькі любяць над намі вумнічаць, а розуму ў іх меней нашага. Аб чом ён хвалюецца? Кудысьці ездзіў і ганяў мене. Сколькі мы не ездзілі, а вернулісе ж дадому. Лепшай (луччай) бу с самога пачатку заставацца нам з ім дома, ён бу седзеў на печцы, а я б еў аўёс». (На гаворку г.Брагіна пераклала Г.Краўчанка. Узята з: Переводы из произведений Л.Н.Толстого на говоры Полесья. Рукапіс, Мінск, 1983. С. 208. Составил Ф.Д.Климчук.)

Паехаў мужык у горад, каб купіць каню аўса. Як толькі выехаў за вёску, конь захіліў назад дадому. Мужык выцяў каня пугаю. Конь паехаў і думая пра мужыка: «Куда ён, дурань, мяне гоніць, лепей каб дадому. Ні даяжджаючы да гораду, мужык бачыць, што каню цяжка ў гразе, захіліў на брук, а конь ніяк не ўзлазіць на брук. Мужык выцяў пугай і падцяў цуглі: конь пайшоў па бруку і думая: «Чаго ён мяне захіліў на брук, толька капытэ зломіш. Тут пад нагамі так цьвёрда».

Мужык пад'ехаў да магазіна, купіў аўсу і паехаў дадому. Прыехаўшы дадому даў каню аўсу. Конь пачаў есьці і думая: «Якія людзі дурні! Толька любяць з намі мандраваць, а розуму ў іх яшчэ меняй, чым у нас. Чаго ён тут вазіўся. Недзя езьдзіў, гнаў мяне. Як мы ні езьдзілі, усяраўно вярнуліся дадому. Лепяй зразу засталіся б дома; ён сядзеў бы на печы, а я авёс еў». (На гаворку в.Краглі Дзятлаўскага р-на пераклала Г.Цішук.)

Поехаў мужык у город за овсом для своей кобулы. Только шчо вуехаў із сала́ (із дзэрэўні), кобула стала поворачваць назад до хаты. Мужык ударыў кобулу пугай. Вона пошла і думае про мужыка: «Куды вон, дурэнь, мане́ гоніць; лучшэ бу до хаты». Не доежжаючы до города, мужык бачыць, шчо кобулі важко по гразе, поварнуў на грэблю, а кобула ворочае назад од грэблі. Мужык удырыў пугой і скубану́ў кобулу: вона пошла на грэблю і думае: «Нашчо вон мане поварнуў на грэблю, только копута поламаеш. Тут под ногамі цвэ́рдо».

Мужык под'ехаў до лаўкі, купіў оўса і поехаў до хаты. Колі пріехаў до хаты, даў кобулі оўса. Кобула стала есці і думае: «Якіе людзі дурные! Только любяць над намі командоваць, а розуму ў іх мэнш, чым у нас. Про шчо вон клопотаў? Недзі едзіў і гоняў мане. Сколько му не ездзілі, а варнуліся до хаты. Лучшэ бу зразу (с самога начала) оставацца нам з ім у хаці; вон бу садзе́ў на пачэ, а я ела б аўёс». (На гаворку горада Давыд-Гарадка пераклаў К.Царык. Узята з: Переводы из произведений Л.Н.Толстого на говоры Полесья. Рукопись. Мінск, 1983. С. 164—165. Составил Ф.Д.Климчук.)

**Сярэднебеларускія гаворкі**. Паехаў мужык у горад купіць аўса каню. Толькі ён і выіхаў сь сіла, як пачаў конь завірачацца назад к дому. Мужык сьцібануў яго пугай. Конь падыбаў далей і думая пра мужыка: «Куды ён, дурак, ту́ра міне, луччай бы ў хаці сядзець». Ужо ні даіжжаючы к гораду, бача мужык, што крэпка цяжола каню па гразі. Ён яго на добраю дарогу, а конь верня і адтуль. Мужык пляснуў кнутом і тузануў каня. Ступіў тэй на шлях і думая: «Зачым ён міне павярнуў сюды, толькі капыты паламаіш. Тут пад нагамы так каляна».

Мужык прыехаў к лаўцы, купіў там аўса і дамоў атправіўся. Як прыбіўся к хаці, сыпануў скаціні аўса. Пачаў конь есьць і зноў думая: «Якея людзі дурнэя! Толькі й і ўмеюць з нас дзівіцца, а ў самых розуму меній, чым у нас. Для каго ён стараўся? Кудыйсь сам езьдзіў і міне ганяў. Колькі ж ні езьдзілі, а дамоў прыбіліся. Луччы б ад самага начала былі мы зь ім у хаці. Ён ба сядзеў на печы, а я авёс жваў». (На гаворку в.Залессе Чачэрскага р-на пераклала В.М.Курцова.)

**Палеская група гаворак**. Пойіхав мужык на місто за овсом ля коня. Оно́ выйіхав с сыла, кынь став воро́чаты назад додому. Мужык вы́тяв коня быче́м. Вын пошов і думае про мужыка: «Куды вын, дурэнь, мынэ жынэ. Ліпш бы додому». Ны дойіжджяючы до міста, мужык бачыть, шо коневы тяшко по калу́; вын звырну́в на брук, а кынь ворочае назад од бруку. Мужык вы́тяв быче́м і тузну́в коня. Вын пошов на брук і думае: «Нашо вын повырнув мынэ на брук, оно копы́та обла́мныш. Тут пуд ногамы твэрдо».

Мужык пудйіхав до лавкы, купыв овса і пойіхав додому. Як прыйіхав додому, да коне́вы овса. Кынь став йісты і думае: «Якыйі людэ дурныйі! Оно люблеть задава́тысь, а розуму в йіх мэ́нч чым у нас. Про шчо вын клопота́в? Ні́куды йіздыв, гоныв мынэ. Кылько б мы ны йіздылы, а сёромно вырнулысь додому. Ліпш бы було б зразу оставатысь нам з йім вдома, вын бы сыдів на пычі, а я йів бы ов'е́с». (На гаворку вёскі Сіманавічы Драгічынскага р-на пераклаў Фёдар Клімчук.)




Мроі і ява, фантастычнасць і рэальнасць ляжаць у падмурку вобразнага ладу лірыкі аўстрыйскага паэта Ге́арга Тракля (1887—1924).

*Ге́арг ТРАКЛЬ*

## Раманс ночы

Пад зорным покрывам, адзін,
Юнак на скрыжаванні мар,
Мярцвяны бляск на шэры твар
Лье з неба стылы маладзік.
Дурніца плача ля вакна
У змроку сцен, на азарку
Каханкаў пара ў чаўнаку
Плыве замроена, адна.
Забойца шчэрыцца з віна,
Хапае хворых смертны страх,
Ля ног распятага Хрыста
Манашка кленчыць давідна.
Калыша маці немаўля,
Глядзіць спакойна ў ноч дзіця
Вачыма шчырага жыцця...
У бардаку дрыжыць зямля.
А днём у склепе на сцяне
Рукою белаю мярцвяк
Маўчання выскалены знак
Малюе... Шэпт жывога ў сне...
Прасветленасць
Калі вечарэе,
Ціха з цябе ападае аблічча блакіту.
І птушка спявае на тамарындзе.
Пяшчотны манах
Складвае накрыж адмерлыя рукі.
І белы анёл карае Марыю.
Вяночак начны
З фіялак, з калосся, з гронак пурпурных —
Такі ў сузіральніка год.
Пад нагамі тваімі
Адчыняецца дол,
Калі ты ў срэбныя рукі лоб апускаеш.
Ціха жыве
На вуснах тваіх восеньскі месяц,
Напоены макам змрочны напеў;
Блакітная кветка
Ціха спявае ў пажоўклым камені.

**Пераклад з нямецкай**
**Васіля СЁМУХІ.**

**Займальная філалогія**

# Жук? — Гэта беларус!

*Папаўся жучку ў панскую ручку!*
*(Прымаўка)*

Усе ведаюць імя, якое сімвалізуе беларуса, — **Янка**. А вось як наконт прозвішча? Ці назавём характэрнае беларускае? Як быццам, такога няма. Ва ўсякім разе адсутнічае традыцыя ўжываць пэўнае прозвішча ў дачыненні да тыповага прадстаўніка нацыі.

Да гэтага часу ніхто не падлічыў, якое прозвішча ў нас самае пашыранае. Таму ёсць пэўнае апраўданне: беларускія прозвішчы надзвычай разнастайныя як паводле ўтваральных асноў, так і па марфалагічнай структуры, і сярод іх не вылучаецца відавочны лідэр ці лідэры, як, прыкладам, у расійцаў, дзе самаму пашыранаму мужчынскаму імені **Іван** адпавядае вытворнае ад яго прозвішча **Іваноў**, якое і стала агульнапрынятым найменнем расійца.

У беларусаў імя **Іван** са сваімі нацыянальнымі формамі таксама было і застаецца на першых пазіцыях, але вытворныя ад яго прозвішчы кшталту **Ванковіч, Вашкевіч, Іванчык, Іванюк, Яновіч, Янкоўскі, Яскевіч** не такія ўжо і частыя, ды, галоўнае, яны разнастайныя, і якое-небудзь адно з іх выразна не дамінуе. Найболей распаўсюджанае трэба шукаць сярод іншых.

Аўтар гэтых радкоў, займаючыся некалькі гадоў даследаваннем прозвішчаў, прыйшоў да высновы, што на статус самага частага беларускага прозвішча найперш прэтэндуе **Жук**. Нядаўна знайшоў і частковае аб'ектыўнае пацвярджэнне свайму меркаванню ў тэлефонным даведніку Гародні. З прозвішчаў абанентаў кватэрных тэлефонаў найболей паўтараецца менавіта Жук — 156 разоў. Праўда, мала яму саступае **Іваноў** — 150 разоў. Але апошняе не мясцовага паходжання, а «прывезена» з Расіі ці часткова з усходняй Беларусі.

Згаданыя два прозвішчы, паводле даведніка, першынствуюць са значным адрывам ад астатніх (на трэцім месцы **Занеўскі** — 83 абаненты).

**Жукоў** у Гародні, мяркую, істотна болей за **Івановых**, але трапіла іх у тэлефонны даведнік не столькі, як апошніх. Чаму? Расійцы, як вядома, прыязджалі на Беларусь найперш на кіраўнічыя пасады; адсюль можна ўскосна меркаваць, што працэнт тэлефанізацыі **Івановых** будзе вышэйшым, чым мясцовых жыхароў, шмат якіх знойдзецца ў бестэлефонных кватэрах і інтэрнатах.

Прозвішча **Жук** пашырана ці не па ўсёй Беларусі. Ёсць у нас і іншыя прозвішчы з той самай асновай — **Жукавец, Жукаў, Жучкевіч, Жукоўскі** і падобныя, але яны больш рэдкія. У Гародні з такіх найчасцейшае **Жукоўскі** (72 тэлефонныя абаненты), што тлумачыцца характэрнасцю мадэлі прозвішчаў на *-скі/-цкі* для гэтага рэгіёна.

**Сяргей БОГУШ,**
**аспірант кафедры мовазнаўства Гарадзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы.**

**Беларускі кнігазбор**

# Максімава спадчына

У гісторыі беларускага кнігадруку — падзея: нарэшце выдадзены Поўны збор твораў класіка сусветнай літаратуры — Максіма Багдановіча. Яшчэ да пачатку гэтага акадэмічнага выдання ў асяроддзі навукоўцаў вяліся гарачыя спрэчкі: якім быць новаму збору твораў пісьменніка. Тут бачыліся два варыянты: 1) першы ў рэспубліцы Поўны збор твораў; 2) папоўнены збор твораў у параўнанні з папярэднімі выданнямі: *Творы М.Багдановіча. Т. 1—2. — Мн., 1927—1928; Багдановіч М. Збор твораў. Т. 1—2. — Мн., 1968.* Першаму збору твораў, выдадзенаму І.Замоцiным, не пашчасціла: з запланаванага трохтомніка выйшлі 2 тамы. Цяперашняе выданне — трохтомнае. Пры яго складанні былі выкарыстаныя прыжыццёвыя публікацыі М.Багдановіча, а пры іх адсутнасці — тэксты замоцінскага выдання і аўтографы. На жаль, падчас Другой сусветнай вайны знік рукапісны архіў пісьменніка, які калісь перадаў Літкамісіі бацька Максіма — Адам Ягоравіч Багдановіч.

У трохтомніку друкуюцца творы, якія прыпісваюцца М.Багдановічу. Падставай сведчання, што пэўны твор належыць яму, з'яўляюцца крыптанімы: *Б—ч, Б., М.Б.* Але існуе меркаванне, што, падпісаны крыптанімам *Б—ч*, пераклад народнага апавядання «Юдава поле» (па-славацку напісаў Светазар Ваянскі) зрабіў Мечыслаў Баброві́ч.

Першы том змяшчае паэтычную спадчыну; другі — празаічную; трэці — празаічную, эпісталярную. У трэцім томе падаецца летапіс жыцця і творчасці, «Апіс рукапісаў М.Багдановіча і матар'ялаў да яго біяграфіі» (паводле замоцінскага выдання). Трэба шчыра падзякаваць стваральнікам Поўнага збору твораў, у тым ліку рэдактарам — А.Лойку (Т.І), М.Мушынскаму (Т.ІІ.) і У.Конану (Т.ІІІ). Неабходна адзначыць, што ў выданні змешчаныя артыкулы пра М.Багдановіча: А.Лойка «Паэт нараджаецца не аднойчы», Т.Чабан «Космас «Вянка», І.Багдановіч «Пакліканы Адраджэннем», Л.Казыра «Перакладчыцкая спадчына Максіма Багдановіча» (Т.І); М.Мушынскі «Спадчына Багдановіча — празаіка», «Навуковая і літаратурна-крытычная спадчына М.Багдановіча» (Т. ІІ); У.Конан «Публіцыстыка Максіма Багдановіча» (Т. ІІІ).

Паколькі М.Багдановіч у гэтым выданні паўстае перад намі як перакладчык, дык немагчыма абысці ўвагай творы сусветных класікаў. Сапраўды, чаго варты хаця б пераклад з Гарацыя — «Памятнік»! А вершы П.Верлена! Тут і Авідзій, і Ю.Святагор, і Г.Гейнэ, і Ф.Шылер, і Э.Верхарн, і А.Пушкін... Сёння для нас гэта вялікі скарб.

Спадчына М.Багдановіча, змешчаная ў 2-м і 3-м тамах, можа для чытача ўяўляць асаблівую цікавасць: тут мы бачым менш вядомыя творы пісьменніка. Спаміж іх два артыкулы, напісаныя па-ўкраінску — «Забутий шлях» (Т. ІІ) і «Білоруське відродженн » (Т. ІІІ). Першы — пачатак літаратурна-крытычнага артыкула, які друкуецца паводле выдання 1927—1928 гадоў; другі — тэкст брашуры: *М.Богдановічъ. Білоруське відродження» Відень 1916.* (Гэты твор на расійскай мове надрукаваны ў 2-м томе Поўнага збору твораў). Побач публікуецца для параўнання пачатак гэтага артыкула ў яго прачытанні на сучаснай украінскай мове.

На жаль, выданне не абышлося без памылковых звестак. Гэтак у 2-м томе ў «Анатаваным паказальніку імёнаў да раздзелаў «Літаратурнакрытычныя артыкулы», «Рэцэнзіі і нататкі» памылкова пададзена імя Францішка Аляхновіча (1883—1944) замест беларускага пісьменніка пачатку XX стагоддзя К.Аляхновіча-Чэркаса (гл. Т. ІІ, с. 228, 532, 577; Т. ІІІ, с. 251, 334, 431).

Нас засмучаюць страты некаторых аўтографаў М.Багдановіча. Але цешаць знаходкі даследнікаў: да прыкладу, апавяданні, фельетоны і іншыя празаічныя творы класіка за подпісамі «Ив. Февралев» і «Эхо».

Спадзяёмся, што будуць новыя знаходкі. Поспехаў тым, хто шукае!

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

***Урэшце!***

# Захаваюць традыцыі?

17 верасня Тэатр юнага гледача распачаў свой 40-ы сезон. Замест звычайнага спектакля дзеля такой даты артысты ТЮГа падрыхтавалі вясёлы «капуснік». У зале сярод гледачоў прысутнічала шмат людзей вядомых, чыё жыццё звязанае з мастацтвам і непасрэдна з ТЮГам. Дырэктарскую ложу занялі новыя дырэктар і мастацкі кіраўнік тэатра — Ф.Пісарук і Б.Барысёнак.

Так, тэатр перажывае не лепшы перыяд свайго жыцця, аднак пра цяжкія варункі для творчай працы, раптоўныя і частыя змены кіраўнікоў са сцэны гаварылася з гумарам... І сапраўды, што нам яшчэ застаецца, як не жартаваць над тым, што мы не ў сілах змяніць... Вось, напрыклад, эпізод «капусніка»: гучыць прамова прэзідэнта, якую два перакладчыкі перакладаюць на беларускую і... расійскую мову...

На жаль, сапраўды арыгінальных і запамінальных нумароў у «капусніку» было няшмат. У асноўным артысты дэманстравалі танцавальную частку сваіх спектакляў і пародыі на песні расійскай эстрады. Адчувалася, што сцэнарый «капусніка» ствараўся спехам, «падручнымі сіламі». Яго напісаў адзін аўтар-непрафесіянал, артыст тэатра Юрый Вута, прычым артыст... прынцыпова расійскамоўны. Хаця вядучыя «капусніка» — Галіна Кухальская і Юрый Кухаронак, таксама артысты ТЮГа, неаднойчы паўтаралі адпаведна з тэкстам сцэнарыя, што тэатр працаваў і будзе працаваць на адзінай магчымай для яго мове — беларускай... Аднак нават Анатоль Жук, артыст-пісьменнік, выйшаўшы на сцэну, перапрасіў гледачоў і пачаў гаварыць на той мове, на якой яму «зручней», бо на ёй «ён думае», г.зн. на расійскай.

Што ж, тым не менш, беларускі Тэатр юнага гледача пачаў свой юбілейны сезон, не адступаючы ад даўніх традыцый, паводле якіх тэатр мусіць быць нацыянальным. Таму пажадаем яму творчых поспехаў.

**Наш кар.**

***Матэрыялы да слоўніка «Беларускія імёны»***

***Сымон БАРЫС***

# Як у нас клічуць?

## Жаночыя імёны

*(Працяг.)*

**Зямфіра**. Земфира (лац.). Утворана ад мужчынскага імені Зефіра, якое з лац. — зефір, лёгкі заходні вецер. Імяніны кат. Зэльфіры 26.08.

**Іда**. Ида.

**Івона**. Ивонна. Утворана ад мужчынскага імені Ив, Иво альбо мужчынскага імені Иона (яўр.) — голуб. Вытв. Івонка, Іваначка. Імяніны: пр. 5.10; кат. 23.05; 27.10. Катал. Ёанна — 12.12.

**Ізабэла. Бэла**. Ізабелла (іспан.), якое са стараяўр. — богам адзначаная. Вытв. Бэлка, Бэлачка, Ізабэлка. Імяніны катал. 16.03; 3.09.

**Ізяслава** (бел.). Вытв. Ізя, Ізячка.

**Ілона. Илона**. Вытв. Ілонка, Ілоначка. Імяніны катал. 18.08.

**Іна**. Инна (гоцк.). Паходжанне не ўстаноўлена. Раней тлумачылася, як «шпаркі сцёк вады, быстрая вада». Вытв. Інка, Іначка, Інуля. Імяніны пр. 2.02; 3.07.

**Ілары́я**. Илория (грэц.) — ясная. Імяніны пр. 1.04.

**Інэса**. Инесса.

**Ірына, Арына**. Ирина (грэц.) — мір. Ироида (грэц.) — гераічная. Вытв. Ірачка, Іра, Ірка, Ірынка, Арынка, Ірок, Ірыша, Іруня, Іруля, Іруся, Ірусечка, Ируська, Ірусік, Ірша, Ірця, Арыша. Імяніны: пр. 29.04; 26.05; 1.10, Іраіда — 6.10; катал. Ірэна — 5.04; 5.05; 18.09; 20.10.

**Інга**. Инга.

**Ізольда**. Изольда.

**Ія**. Ия (грэц.) — фіялка.

**Ільта**. Імяніны катал. 15.01.

**Казіміра**. Казимира. Утворана ад мужчынскага імені Казімір, якое са славянскага — прадказваць мір. Вытв. Казя, Казюля.

**Каміла**. Камилла (лац.) — дзяўчына бездакорнага паходжання; рымскае родавае імя. Вытв. Камілка, Каміля, Камілечка. Імяніны катал. 16.09.

**Каліна**. Калина (слав.). Вытв. Калінка, Каліначка.

**Капіталіна**. Капитолина (лац.) — капіталійская, з Капітолія. Вытв. Капа, Капачка, Таля, Толя, Ліна, Ліначка. Імяніны пр. 9.11.

**Караліна**. Каролина (лац.). Утворана ад мужчынскага імені Карл, якое са стараням. — мужны чалавек. Вытв. Каруся, Карына. Імяніны катал. 5.07.

**Кастуся**. Констанция (лац.) — пастаянства, згода. Утворана ад мужчынскага імені Кастусь. Вытв. Касця, Кастуля, Кастусечка, Кастуська. Імяніны катал. Канстанцыя 18.02; 19.09.

# Збіраем матэрыялы для Крыўскай (Беларускай) міфалагічнай энцыклапедыі

**БЕЛАБОГ.** Славуты наш гісторык і этнограф А.Г.Кіркор пісаў, што беларусы захавалі памяць пра «галоўнага, добрага Бога, бацьку неба, Белабога, Прабога, бацьку Перуна, якога яны называюць Белуном. Пра веліч і высокае прызначэнне Белбога ў іх цмянае ўяўленне, але паэтычны настрой беларуса і яго імкненне ажыўляць розныя з'явы дапамаглі яму стварыць нават матэрыяльны вобраз Белуна». Паводле беларускіх народных паданняў вядома, што Белун часам сыходзіць на зямлю — стары чалавек з доўгай барадой, апрануты ў белае адзенне, любіць наведваць падчас жніва палеткі, дапамагае жнеям, а часам дарыць і золата.

Аднак, А.Г.Кіркор, верагодна, злучыў дзве розныя міфалагічныя асобы — Белабога і Белуна. Прыкладам, «Міфалагічны слоўнік» падае: «**Белабог**, боства, якое рэканструявалі дзеля заходнеславянскай міфалогіі». Падставай для «аднаўлення» стала звестка, што ў славянаў, якія жылі на абшарах паміж Лабай і Одрай, было боства Чорнабог. Пра гэта згадвае нямецкі гісторык Гельмольд у «Славянскай хроніцы» (XII ст.). Вядомы таксама шэраг славянскіх урочышчаў, што называюцца «Белы бог», а таксама назва гор у лужыцкіх сербаў — Белы бог і Чорны бог. Хаця некаторыя даследнікі і лічаць, што Белабог з'явіўся вынікам так званай «кабінетнай міфалогіі», аўтары артыкула згаданай энцыклапедыі сцвярджаюць, што Белабог сапраўды ўшаноўваўся заходнімі славянамі. Ён утвараў з Чорнабогам дуалістычную пару. Такую сваю выснову яны падмацоўваюць і фактам існавання «некаторых іншых міфалагічных персанажаў накшталт Белуна, дарыцеля багацця ў беларусаў».

Але ў нашай народнай песні згадваецца:

*Быў на Русі Чорны бог,*
*Прад ім стаяў Тураў рог...*

Не менш цікавымі падаюцца і радкі яшчэ адной:

*Пане круку, пане круку,*
*Чарнабога старшы ўнуку.*

Такім чынам, на падставе народнай творчасці, звестак А.Г.Кіркора можна «аднавіць» (паводле таго ж метаду, што выкарысталі аўтары артыкула «Міфалагічнага слоўніка») і нашага Белабога.

Гэтае вярхоўнае боства магло служыць нашым прашчурам здаўна. Але нельга выключыць і верагоднасць больш позняга з'яўлення Белабога. Яго маглі «прынесці» на нашыя абшары тыя заходнеславянскія плямёны — велеты, люцічы, абадрыты, — што перабраліся сюды на пачатку II тысячагоддзя пасля Х.н. Белабог, відавочна, не змог знайсці сабе «пячурку» на нашым Алімпе — Лысай гары, багата населеным паганскім пантэоне нашых прашчураў. (Таму ён мала вядомы, прыкладам, у параўнанні з Перуном.) Але сваім месцам і хвалаю падзяліўся з ім той, чыё імя з таго часу пачало згадвацца аднachасна, побач — Белун.

**Белун**. Нашым продкам гэтае імя было добра вядома. «Пасябрыўся з Белуном», — занатаваў народную прымаўку Іван Насовіч і патлумачыў, што яна азначае — разбагацеў.

Менавіта гэтае (добрае) боства служыла за галоўнага, вярхоўнага бога. Мы прызвычаіліся да таго, што ў нашай міфалогіі самы галоўны — Пярун. Але ягоным бацькам падаецца Бялун. Калі ж тады з'явіўся Белун?

Паводле паданняў Белун любіць прыходзіць на палеткі падчас жніва. Верагодна, што ён упершыню «завітаў» да нашых далёкіх прашчураў, калі яны пакінулі пастухоўскі лад жыцця і пачалі займацца земляробствам. Магчыма, гэта здарылася ў той час, калі нашы прашчуры ўваходзілі ў інда-еўрапейскую сям'ю і называліся арыямі. Слова *белы*, як лічыць нямецкі мовазнаўца М.Фасмер, паходзіць ад старажытнаіндыйскага слова, bhalam, якое мае значэнне 'бляск, зіхаценне'. І як тут не ўспомніць яшчэ адну нашу прымаўку: «Без Белезна цёмна ў лесе».

Белун, як падае А.Г.Кіркор, — бацька неба, Прабог, бацька Перуна. Падобнае вярхоўнае боства ўшаноўвалася і ў старажытным Шумеры — краіне, адкуль пайшлі старажытныя цывілізацыі. Ягонае імя — Ана — згадваецца ў піктаграфічных тэкстах за 3 тысячы гадоў да Х.н. Пазней вяршынства пераходзіць да ягонага сына Энліля, якога надзялілі такімі эпітэтамі: «Вялікая гара», «Уладыка ўсіх краінаў», а нават і «Бацька багоў». (Ці не падобнае здарылася і з нашымі Белуном і Перуном?) Яшчэ пазней у XIII стагоддзі да Х.н. Энліль атрымаў эпітэт **Бел** («Уладыка»).

Ці не падобным чынам боствы нашых прашчураў Прабог і «Бацька неба» зліліся ў адзін вобраз Белуна? Ці выпадковае такое супадзенне імёнаў Бел («Уладыка») і Белун? На гэтыя пытанні давядзецца шукаць адказы нашым мовазнаўцам, этнографам і гісторыкам.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

# «Творчая эліта павінна ведаць культуру свайго народа...»

***Рэспубліканскі ліцэй пры Беларускай акадэміі музыкі — адна з тых устаноў, што выхоўвае інтэлектуальную і творчую эліту нацыянальнай культуры. Ад таго, якую духоўную арыентацыю атрымаюць юныя таленты, у многім залежыць будучыня нашай радзімы. Сёлета ліцэю споўніцца 60 год. Які ж сённяшні дзень гэтай установы, якімі прынцыпамі кіруюцца тыя, што выхоўваюць будучыню беларускай музычнай культуры, і пра іншае, што можа зацікавіць чытачоў «Нашага слова», з намеснікам дырэктара ліцэя па вытворчай працы Мільто Аляксандрам Паўлавічам гутарыць карэспандэнт Людміла Рублеўская.***



**— Аляксандр Паўлавіч, найперш давайце пагаворым пра падзею, якая, відаць, найбольш хвалюе цяпер ліцэй — яго блізкі юбілей... Дарэчы, як жа ліцэй утварыўся?**

— У 1935 годзе пастановай Саўнаркома БССР была арганізавана група дзяцей пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Гэта здарылася 15 кастрычніка. Круглая дата — 60 год таму! Адзначаць будзем шырока. Падзеі прысвечаны міжнародны фестываль «Беларуская музычная восень», які адбудзецца з 20 па 30 лістапада. На гэты фестываль з'едуцца выпускнікі ліцэя, якія працуюць у ЗША, Расіі, Нарвегіі, Грэцыі, Германіі, практычна ва ўсіх краінах Заходняй Еўропы — хто выкладчыкам, хто музыкантам у аркестры... Прымуць удзел ва ўрачыстасцях такія вядомыя асобы, як прафесар эстэтыкі Акадэміі музыкі Ладыгіна Арыядна Барысаўна, былы канцэртмайстар сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь, заслужаны артыст рэспублікі Сямён Пятровіч Асновіч, прафесар Акадэміі музыкі Рахленка Валянціна Леанідаўна.

**— А калі Ваша ўстанова набыла статус ліцэя?**

— У 1990 годзе. Справа ў тым, што нашы выпускнікі, атрымаўшы музычную адукацыю на сусветным узроўні, не мелі адпаведнага дакумента, які дазваляў бы ім лічыцца прафесійнымі музыкантамі. Ім выдаваўся атэстат сталасці і пасведчанне, якое не давала права працаваць. З наданнем нашай школе статуса ліцэя выпускнікі пачалі атрымліваць дыплом, з якім яны могуць працаваць у аркестрах, у хорах, выпускнікі па спецыяльнасці «тэорыя музыкі» — у рэдакцыях, школах...

**— А па якіх крытэрыях адбіраеце вы дзяцей у свой ліцэй? Ці не кранула яго агульная камерцыялізацыя? Можа быць, як і ў іншых прэстыжных навучальных установах, у вас ёсць цяпер і платная форма навучання, калі дзеці не самыя таленавітыя, але маючыя багатых бацькоў, займаюцца побач з выбранцамі музаў?**

— Адзіны крытэрый пры адборы дзяцей быў і ёсць — талент. Платнага навучання ў нас няма, і не плануецца. Матэрыяльнае становішча, канешне, як і ва ўсіх, цяжкае, але пакуль трымаемся. Талент і працаздольнасць — адзінае, што цэніцца ў нас.

**— Вашы вучні атрымліваюць класічную музычную адукацыю. Але, напэўна, нямала тых, што «здраджваюць» класіцы і ідуць у эстраду, у джаз, рок...**

— Безумоўна, такое ёсць. Дарэчы, адзін з канцэртаў згаданага фестывалю прысвечаны менавіта джаз-рок-попмузыцы. Сярод вядомых артыстаў гэтых музычных жанраў, што скончылі наш ліцэй, магу назваць народнага артыста РБ І.Лучанка, заслужаную артыстку рэспублікі Я.Паплаўскую, кіраўніка вядомага джазавага вакальнага ансамбля «Камерата» А.Шыкунова, кіраўніка джаз-квартэта пры аркестры Л.Фінберга Б.Бернштэйна. Аднак у асноўным нашы выпускнікі працуюць у рэчышчы класічнай музыкі — назаву піяніста Ігара Алоўнікава, арганіста Канстанціна Шарава, С.Картэса, кампазітараў Бельцюкова, Д.Смольскага...



**— Напэўна, пры паступленні ў Ваш ліцэй трэба праходзіць іспыты...**

— Адзіны крытэрый — паўтаруся — талент, музычная адоранасць. Кожны год навучэнцы праходзяць конкурс. Асноўны конкурс — у 9-м класе, пасля атрымання няпоўнай сярэдняй адукацыі. Пасля — паступленне непасрэдна на ліцэйскі курс, і тады выбар прафесіі для навучэнцаў — адзін...

**— Я заўважыла, дарэчы, што дзеці з вашага ліцэя моцна адрозніваюцца ад сваіх аднагодкаў... І не толькі духоўна, але і чыста знешне — паставай, манерамі, прыхільнасцямі ў адзежы...**

— Так, мы гэта заўважаем. Першае, што вылучае нашых дзяцей, — вочы.

**— А цяпер раскажыце, як атрымліваюць навучэнцы ліцэя агульную адукацыю і на якой мове вядзецца іх навучанне...**

— Да 9-га класа нашы дзеці атрымліваюць агульную адукацыю па дзяржаўнай праграме. Адзіная асаблівасць — дзейнічае некалькі факультатываў: клавесін, арган, настройка інструментаў. У праграме 10, 11, 12-ых класаў ёсць рад спецыяльных прадметаў. Што тычыцца мовы навучання, дык чатыры гады ў пачатковых класах навучанне вялося на беларускай мове. Апошнія змены ў сістэме адукацыі з выбарам мовы навучання нам пашкодзілі. Некаторыя бацькі пішуць заявы на рускамоўнае навучанне для сваіх дзяцей. Гэта значыць, што трэба дадаткова знайсці педагогаў, падручнікі, класныя памяшканні... Адкуль? Нам жа ніхто дадатковых грошай на гэта не выдае. Мы лічым, што мы падрыхтоўваем інтэлектуальную эліту нашай рэспублікі, яе інтэлігентаў, і яны павінны абавязкова ведаць сваю культуру, таму асноўнай мовай навучання ў нашым ліцэі павінна быць беларуская, і за гэта мы змагаемся. Вось, напрыклад, цяпер у 4-м класе трое бацькоў напісалі заявы на рускамоўнае навучанне. Што цяпер рабіць? Ствараць асобны клас з трох чалавек? А між тым, у нас вельмі добрыя педагогі, якія даўно вядуць навучанне на беларускай мове. Хаця — такая асаблівасць — у ліцэйскім курсе асноўнай педагагічнай практыкі няма. Мы запрашаем лепшых выкладчыкаў з іншых навучальных і навуковых устаноў — Акадэміі навук, універсітэта... Напрыклад, Павел Лойка адчытаў у нас курс гісторыі па тых самых падручніках, што зараз будуць перапісвацца... На яго ўрокі трапіць было немагчыма. Гісторыю жывапісу выкладае ў нас выпускніца Акадэміі мастацтваў. Была спроба ўвесці курс гісторыі рэлігіі... Мы можам ганарыцца — навучанне ў нашым ліцэі вядзецца на самым высокім сусветным узроўні. Гэта адзначаюць усе, хто прыязджае да нас з замежжа.

**— Як з фінансавым забеспячэннем ліцэя?**

— Пакуль грэх скардзіцца. Асноўныя праблемы ў іншым: ноты не выдаюцца, інструменты цяжка набыць... Галоўнае, што непакоіць, — хацелася б падтрымаць гэтых дзяцей, якія сапраўды таленавітыя, за якімі сапраўды — будучыня... Дарэчы, на згаданым сёлетнім фестывалі «Беларуская музычная восень» будуць выступаць і яны, нашы сённяшнія навучэнцы.

**— Вашы навучэнцы часта бяруць удзел у падобных імпрэзах?**

— Рэгулярнымі зрабіліся музычныя сустрэчы навучэнцаў ліцэя з выхаванцамі ізастудыі «Цюбік» пры Дзяржаўным мастацкім музеі...

**— Хачу зазначыць ад сябе, што ліцэісты выступаюць на гэтых сустрэчах вельмі прафесійна, іх выступленні вельмі падабаюцца і дарослым, і дзецям... Ну, а паводзяць вашы дзеці сябе як сапраўдныя маленькія ледзі і джэнтльмены.**

— На заканчэнне размовы хачу запрасіць вас і ўсіх, хто прачытае нашу гутарку, на фестываль. Яго складуць канцэрты, якія пройдуць у філармоніі з 20 лістапада. Будуць выступаць «зоркі» з-за мяжы і айчынныя... Канцэрт адбудзецца непаўторны, таму раю не прапусціць яго.

**— Віншую ад сябе асабіста і ад чытачоў «Нашага слова» ваш ліцэй з юбілеем, жадаю яму творчых поспехаў і доўгага жыцця, і няхай яшчэ цэлыя сузор'і запаліць ён на небасхіле сусветнай музыкі, каб праславілі яны нашу Беларусь і ўзбагацілі яе культуру.**



### Праграма фестывалю «Беларуская музычная восень-95»

20.X Канцэрт аркестра беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета.
Саліст — лаўрэат міжнароднага конкурсу Л.Кузьмін.

21.X Юбілейныя святкаванні, прысвечаныя 60-годдзю Беларускага музычнага ліцэя.

22.X Сольны канцэрт Л.Кузьміна.

23.X Канцэрт-віншаванне Беларускай акадэміі музыкі.

24.X Канцэрт «Новыя імёны».

25.X Канцэрт Дзяржаўнага аркестра народных інструментаў.
Салісты — вучні музычнага ліцэя.

26.X Канцэрт аркестра Беларускага радыё і тэлебачання.
Салісты — вучні Беларускага музычнага ліцэя.

27.X Канцэрт джаз-рок ансамбляў.

28.X Канцэрт І.Шумілінай.

29.X Канцэрт калектываў музычнага ліцэя (капэла, камерны аркестр, духавы аркестр).

30.X Закрыццё фестывалю.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адлюстроўваць пункт гледжання рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 5295

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 4566 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 16.10.1995 г. у 15 гадзін.